АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

5 – 11 САКАВІКА 1999 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА–РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 15000 РУБЛЁЎ
№10 (202)

## Са святам вас, жанчыны!

Мілых і чароўных
паненак і паняў віншуем
са Святам жанчын!
Зычым на вашым
жыццёвым шляху
сустракаць
толькі ўсмешкі,
спагаду, каханне.
Няхай
шчасцем поўняцца
вашыя вочы,
заможнасцю –
сцены вашага дома.



Заўсёды з вамі
"Рэгіянальная газета".

РАДАШКОВІЧЫ

## Першае мястэчка

Мястэчка перамагло ў абласным конкурсе па добраўпарадкаванні сярод пасёлкаў гарадскога тыпу.

Радашковічы атрымалі дыплом I ступені і, самае галоўнае, грашовую прэмію ў памеры 3 мільярдаў рублёў.

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Сход замест забастоўкі

МАЛАДЗЕЧНА. Рэзкае павышэнне цэн на цэмент і метал, што ўвозяцца ў краіну, значна павялічыла кошт выпускаемых жалезабетонных вырабаў. І адначасова знізіўся попыт на гэтую прадукцыю. Напрыканцы лютага тыдзень знаходзіўся ў неаплачваемым адпачынку калектыў арэнднага прадпрыемства "Маладзечанскі жалезабетонны завод". Не лепшае становішча на мясцовым заводзе ЖБК. А на складах адкрытага акцыянернага таварыства "Маладзечнажалезабетон" назапасілася прадукцыі на 14 мільярдаў рублёў. Пайшлі чуткі, што рабочыя на «жалезабетоне» ў мінулы чацвер баставалі: патрабавалі павелічэння зарплаты, непакоіліся магчымым 30–працэнтным скарачэннем.

Дырэктар ААТ "Маладзечнажалезабетон" **Мікалай Івашкевіч:**

– Будаўнічыя арганізацыі перасталі працаваць. Мы плануем перайсці на работу ў адну змену. Скарачэнне, калі і будзе, – невялікае. Магчыма, ітээраўцаў чалавек 6 скароцім. Па выніках года, сярэдняя зарплата на прадпрыемстве склала 6–7 мільёнаў. За студзень, люты – па 9 мільёнаў. Сёння (у аўторак – рэд.) прынята рашэнне павялічыць зарплату на 40% шляхам павышэння цэнаў на сваю прадукцыю, за кошт рэалізацыі ўжо гатовай прадукцыі. Шмат сродкаў ідзе на іншыя вытворчыя патрэбы – праводзім рэканструкцыю завода – цэх новы будуем, кацельню...

А тыдзень таму забастоўкі на прадпрыемстве не было. Адбыўся сход працоўнага калектыву, на якім кіраўніцтва расказала пра бліжэйшыя планы.

*Алесь ЗЯНОВІЧ, Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

СМАРГОНЬ

## Вяртаецца Дошка гонару

40 фотаздымкаў лепшых працаўнікоў Смаргоншчыны вось–вось будуць змешчаныя на Дошцы гонару, якая абнаўляецца. Усе занесеныя на яе на працягу года будуць атрымліваць у дадатак 10 працэнтаў ад свайго штомесячнага заробку.

Днямі лепшых павіншаваў старшыня райвыканкома, ён уручыў кожнаму пасведчанне аб занясенні на Дошку гонару і сціплыя падарункі разам з канвертамі, у якія было ўкладзена па адной мінімальнай зарплаце.

*Павел МАКЛЮК.*

БЕРАЗІНСКАЕ

## Паўстагоддзя

10 перадач тэлестудыя грамадскай арганізацыі "Наш час" прысвяціла юбіляру – мясцоваму торфабрыкетнаму заводу. Прычына важкая, прадпрыемству – 50.

Доўгі час паспяхова кіруе заводам **Баляслаў Гаўрыс**. Добра ведаюць у краіне яго сына **Генадзя**, а згаданую мясцовую тэлестудыю ўзначальвае дачка **Ірына**.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Вада ў дэфіцыце

Меры па скарачэнні ўжывання пітной вады на вытворчыя мэты зацвердзіў райвыканкам. Летась на тэхналагічныя патрэбы яе было ўзята з гарадскога водаправода 544,3 тысячы кубаметраў.

Ставіцца задача ўпарадкаваць ужыванне пітной вады на заводах і ў арганізацыях, уводзіцца рэжым строгай эканоміі, асабліва ў гадзіны пікавых нагрузак на збудаванні камунальнага водаправода.

*Павел МАКЛЮК.*

ПЕРАПІС

## Сабе на падарунак да свята



*Вольга Тонкавіч рыхтуецца да жаночага дня.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

***Лічыльнікі за кампанію перапісу насельніцтва зарабілі па паўтара мільёна і тыдзень адпачынку. Жанчыны такім чынам зрабілі сабе нейкі падарунак.***

**МАЛАДЗЕЧНА. Работніцы медвучылішча Вользе Тонкавіч дасталіся вуліцы ад уезда ў горад з Вілейкі: Маладзечанская, Спартыўная, Набярэжная.**

– Усіх насцярожвала, калі пыталася пра памеры жыллёвай плошчы, – расказвае Вольга, – крытычна ставілася насельніцтва да рускіх бланкаў. Адзін мужчына заўважыў, што, калі б я з ненацыянальнамоўнай дакументацыяй апытвала ў Польшчы, са мною ніхто не стаў бы размаўляць. Ён прадпрымальнік, шмат дзе бывае па справах, размаўляе толькі па–беларуску. Дачку аддаў у беларускамоўны садок і заклапочаны яе далейшай адукацыяй.

**– Нейкія супярэчнасці кідаліся ў вочы?**

– Называюць роднай мовай адну, а размаўляюць на іншай. Шмат беспрацоўнай моладзі, аднак ісці "працаваць за 6 мільёнаў" не хочуць. Паважаная жанчына, псіхолаг, жыве ў малюсенькай хатцы плошчай метраў 12. У малельны дом па Спартыўнай і пехам ідуць, і на іншамарках пад"язджаюць.

**– Сустракаліся незвычайныя спецыяльнасці, прозвішчы? Якія на ўчастку нацыянальнасці? Ці ёсць доўгажыхары?**

– З трох сотняў жыхароў 5 палякаў, 1 украінец, 4 цыганы. Чалавек з дзесяць маюць вышэйшую адукацыяю. Незвычайная спецыяльнасць – азеляніцель. Калі гаварыць пра прозвішчы, то сустрэлася з Лукашэнкам. Заўважыла, што бабулям, якім 90 год, яшчэ далёка да крытычнага ўзросту – яны ўсю гаспадарку трымаюць.

Карэнных маладзечанцаў амаль што няма. Прыезджыя.

**– Што расказвалі вашы калегі–лічыльнікі?**

– Адна жанчына трапіла ў сям'ю да цыганоў. Ёй пагадалі, а потым патрабавалі грошы. Мае ж горшыя думкі не здзейсніліся. Думала, што праз п'яных на кожным кроку пераступаць буду. Нічога падобнага. Усюды чысціня. Людзі добразычлівыя, нават ніхто пасведчанне не пытаўся. Толькі сабакі былі маімі ворагамі.

**– Да стала запрашалі?**

– 2–3 разы частавалі чаем. У адным з дамоў проста папрасіла вады. Гаспадар прапанаваў на выбар некалькі гатункаў варэння (я выбрала малінавае), зрабіў морс, частаваў печывам.

**– Вялікія сем'і на ўчастку?**

– Самая вялікая сям'я – бацькі і шасцёра дзяцей. Дарэчы, усе жанчыны да 40 на пытанне "ці хочаце (плануеце) мець яшчэ дзяцей" адказвалі катэгарычнае "не".

**– Як складаўся рабочы дзень лічыльніка?**

– Удзень хадзіла па дамах. Увечары (бывала, да 2 ночы) сцірала запісы алоўкам і пісала нанова шарыкавай ручкай. Каб не было памылак. Партфель, меркавала, як сувенір сабе пакіну ці сыну падару. Аднак забралі яго назад.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## Дадатковых урокаў быць не павінна

МАЛАДЗЕЧНА. Сітуацыя з захворваемасцю на грып у апошні тыдзень лютага працягвала заставацца дрэннай, зарэгістравана 3310 выпадкаў, з іх дзеці да 14 год – 1102. За першыя два дні сакавіка грыпу і ВРЗ зарэгістравана 1115, што амаль на 40% менш у параўнанні з такім самым перыядам мінулага тыдня. Прафілактычныя мерапрыемствы неабходна захоўваць яшчэ некалькі тыдняў.

Каранцін у школах горада доўжыўся два тыдні. Каб навярстаць праграму, у вырашылі павялічыць вучэбную нагрузку за кошт дадатковых урокаў на працягу тыдня. Адпрацоўка навучальнага часу за каранцін падобным чынам з'яўляецца парушэннем санітарных нормаў і правілаў і недапушчальная.

У сувязі з аварыяй на водазаборы "Крыніца", некалькі дзён былі перабоі ў водазабеспячэнні мікрараёна ЗПМ. Асабліва дрэннае становішча склалася ў СШ №1, дзе з–за адсутнасці вады немагчыма было забяспечыць захаванне санітарнага парадку.

З прычыны аварыі на цеплатрасе ў Радашковічах некалькі дзён была паніжаная тэмпература паветра ў жылых дамах, участковай бальніцы і СШ.

За парушэнні тэрмінаў рэалізацыі скорапсавальных прадуктаў прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці загадчыца магазіна №43 Лебедзеўскага РТП, загадчыца вытворчасці раённага грамхарчу і загадчыца вытворчасці кулінарнага камбіната райспажыўсаюза. Пры праверках санітарна–тэхнічнага стану інтэрнатаў адзначаныя парушэнні санітарных правілаў. Немалая заслуга ў гэтым навучэнцаў, якія не захоўваюць у інтэрнатах санітарныя правілы.

*Міхаіл ГРАБОЎСКІ.*

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## «Мы любім свой горад»



*Намеснік старшыні гарвыканкома Я. Ідэльчык рабочы дзень пачынае рана.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

***Па выніках леташняга агляду–конкурсу сярод гарадоў абласнога падпарадкавання Маладзечна (Мінская вобласць) атрымаў дыплом I ступені і 5 мільярдаў прэміяльных за добраўпарадкаванне. Абласны конкурс меў сваімі ўмовамі не толькі стан дарог, але і работу гандлю, міліцыі, установ культуры, грамадскага харчавання – ахопліваў амаль усе сферы дзейнасці. Таму ў распрацаваным уладамі плане мерапрыемстваў выканаўцамі значыліся і гарадскія службы, і прадпрыемствы, арганізацыі ўсіх формаў уласнасці. Калі гаварыць прасцей, вобласць вырашыла, што Маладзечанскі гарвыканком спрацаваў лепш за іншыя.***

**– Ці значыць гэта, што ў горадзе за мінулы год знятыя многія праблемы?**

– Летась мы спрацавалі добра. Але імкнемся так працаваць заўсёды, – гаворыць намеснік старшыні гарвыканкома Яфім Ідэльчык, – наша работа, быццам бег з перашкодамі. Вырашаем адныя праблемы, з'яўляюцца іншыя.

**– Многія гараджане хочуць, каб быў наведзены парадак у руху аўтобусаў.**

– Сабекошт праезду ў гарадскіх аўтобусах 12 тысяч. Пасажыр плаціць 4 тысячы (кошт талона). Гэтых грошай хапае толькі на паліва. На зарплату вадзіцелям, рамонт транспарту выдаткоўваем з бюджэту. А яшчэ аўтобусны парк трэба абнаўляць. Каля 70% аўтобусаў – "ветэраны". Нядаўна купілі новы лідскі аўтобус за 10 мільярдаў. У гэтым квартале разлічваем набыць два "бэушныя" "гармонікі" па 6 мільярдаў кожны. Пытанне стану, а значыць, і руху аўтобусаў, – балючае і складанае.

**– Калі ўзяць добраўпарадкаванне ў вузкім сэнсе?**

– Летась на яго пайшло 14 мільярдаў. Яшчэ 24 мільярды на бягучае ўтрыманне (асвятленне вуліц, вываз смецця і г. д.). Пастаралася ўпраўленне архітэктуры, камунальныя службы. Сярод падрадчыкаў у першую чаргу адзначу прадпрыемства механізацыі спецыяльных работ (МПМСР, дырэктар **Канстанцін Манюк**). ААТ "Электрамодуль", ЗЛМК, ТАА "Мікст" (кафэ "Белы капрыз"), "Дзіната" навялі парадак на замацаванай тэрыторыі. Пра; прымальнікі за свае грошы набылі новыя аўтобусныя прыпынкі. Цяпер будзем праводзіць свой – гарадскі – конкурс "Мы любім свой горад". Хочам падключыць да навядзення парадку гараджан – каб і сачылі яны за захоўваннем гэтага парадку. Калі тэатр пачынаецца з вешалкі, то горад – з кожнага дворыка.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

СТАРЫ АЛЬБОМ

# Браты Горыды



*Браты Іван і Мікола Горыды.*

ФОТА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА АЛЯКСАНДРА НАРКЕВІЧА.

Мікола і Іван Горыды з вёскі Гарыдавічы Вілейскага раёна ў 1933–35 гадах разам служылі ў Войску Польскім, у Варшаве. Мікола скончыў школу ваенных санітараў, а Іван – агульнавайсковую. На вайну ў верасні 1939 года палякі іх на фронт чамусьці не прызвалі. Не трапілі яны і ў Савецкую Армію ў чэрвені 1941. Але баявыя веды яны з поспехам выкарыстоўвалі: Іван вадзіў партызанскія дыверсійныя групы на ўчастак чыгункі Вілейка–Куранец, а Мікола таемна лячыў тых, хто трапляў тады ў бяду. Не лішне нагадаць, што гэтыя заняткі пагражалі ім смяротным пакараннем. І іх сем'ям...

Раскажу пра адзін выпадак з падпольнай медыцынскай практыкі Міколы.

... Ранняй вясной 1944 года завітаў да нас нейкі немец з ручным кулямётам. Цётка Зіна мне сказала, каб я адвёў яго на дарогу Куранец–Тураўшчына. У такіх выпадках я пытанні задаваць не прывык, і праз хвілін пятнаццаць мы былі на месцы. Паказаў дарогу, а калі прайшлі Бародзінскі лес, – і Тураўшчыну, дзе размяшчаўся нямецкі гарнізон. Адказаў на ўсе яго пытанні.

А наступнай раніцай з–пад Тураўшчыны данёсся моцны гул хуткацечнага бою. Неўзабаве Міколе Восіпавічу даверыўся чарговы пацыент і раскрыў характар таго бою.

... Сярод ночы Уладзіміра Горыда партызаны папрасілі завесці пад Бародзіна. Залеглі ля дарогі. Месца для засады было выбрана цудоўнае. Уранку з Тураўшчыны пачуўся аўтамабільны роў. Пярэднюю грузавую машыну партызаны прапусцілі, а па легкавой, біткам набітай афіцэрамі, адкрылі знішчальны перакрыжаваны агонь. З маланкавай хуткасцю захапілі дакументы, трафеі. Калі з–за павароту выскачыў наступны грузавік з салдатамі, партызаны зніклі ў лесе. Наўздагон ім ударылі нямецкія кулямёты.

Уладзімір Горыд адчуў моцны, нібы цяжкім калом, удар паназе. Яго перавязаў партызанскі фельчар. Але рана была вельмі сур'ёзная, таму камандзір атрада імя Чкалава Лабаз Джыоеў прапанаваў яму:

– Пойдзеш з намі? І сям'ю возмэм!

Але Уладзімір Восіпавіч добра ведаў, што Мікалай Восіпавіч яго ў бядзе не пакіне. А дома вылечыцца будзе лягчэй. І не памыліўся: стаў чарговым пацыентам "дамашняга доктара" Міколы Восіпавіча. А калі праз пару месяцаў мы ўцяклі ў партызанскую зону ў вёску Даўбарова да Аляксея Чаўлыткі, у доме якога размяшчалася разведгрупа брыгады імя Даватара, з якой мы падтрымлівалі сувязь, там я і сустрэў таго самага "немца". Ён і расказаў, што я яму тады дапамог выбраць месца для той засады.

На фронт Іван і Мікола трапілі ў ліпені 1944 года. Ваявалі таксама разам. З наступаючымі часцямі Чырвонай Арміі ішлі вызваляць Варшаву, баявую калыску свайго юнацтва. Завязаліся кровапралітныя баі за плацдарм. За спінай – Вісла, а спераду і з бакоў – немцы. А смерць – яна ўсюды: фашысты імкнуліся ліквідаваць плацдарм, скінуць чырвонаармейцаў у Віслу.

... Раптам перад вачыма Міколы – агонь, удар, звон ва ўсім целе, цемра... Раніцай адкапалі яго, кантужанага, параненага. Сэрца адлічвала хвіліны згасаючага жыцця. У ваенных шпіталях яго доўга вярталі да жыцця, ставілі ў строй.

А Іван дайшоў да горада Брэслаў, дзе пад канец сакавіка пераможнага 1945 года напаткалі і яго варожыя кулі. Сцэнар той жа: шпіталі, лячэнне. Але на фронт ужо больш браты не трапілі: скончылася тая пачварная вайна.

Дадому вярнуліся інвалідамі. Але знайшлі сваё месца ў жыцці, працавалі да апошняга ўздыху. Не ведалі спакою і гаючыя рукі Міколы, дапамагаючы людзям, якіх ён так горача і моцна любіў. Сведчу гэта з вялікай удзячнасцю: я сам двойчы быў яго пацыентам, і ён мяне ставіў на ногі.

Усе, хто ведаў гэтых цудоўных і незвычайных людзей, успамінаюць іх з вялікай цеплынёй і пашанай, якія яны заслужылі добрасумленнымі адносінамі да людзей, да справы.

*Аляксандр НАРКЕВІЧ.*

ГЕРАЛЬДЫКА

# Атрымайце свой герб

***МІНСК. Пастановай урада прынята рашэнне, каб кожны горад краіны меў свой геральдычны знак, герб. Слова гэтае паходзіць ад лацінскага "герольд", што азначае вяшчальнік (звястун). Складаліся гербавыя знакі на Беларусі ў форме шчытоў (сімвалаў абароны і аховы) яшчэ ў XIII стагоддзі ў перыяд Вялікага Княства Літоўскага, дзе даволі часта сустракалася выява Пагоні – вершніка на кані з паднятай рукой, у якой меч.***

З цягам часу гербы мяняліся, уносіліся дапаўненні, у залежнасці ад сацыяльна–палітычных і эканамічных абставін.

Складанне гербавых знакаў працягвалася да пачатку XX стагоддзя.

Геральдыка, як сістэма ведаў і правілаў, рэгламентавала элементы герба, надавала кожнаму з іх пэўны сэнс і змест. З'явілася і гербазнаўства як дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая дазваляе вызначыць час складання, аўтарства або прыналежнасць адзначаных гербамі дакументаў і рэчаў, і цесна звязана з археалогіяй, нумізматыкай і іншымі дапаможнымі гістарычнымі дысцыплінамі. На прыкладах у адпаведных даведніках можна бачыць, што для афарбоўкі шчыта і выяў звычайна ўжываліся 5 асноўных колераў, якія сімвалізавалі пэўныя якасці: чырвоны, блакітны, зялёны, пурпурны (бэзавы), чорны і цялесны (для чалавечых фігур), а таксама золата і серабро.

Рэчавыя формы былі неабмежаваныя – ад прадметаў да расліннага і жывёльнага свету. Сустракаюцца гербы, якія называюцца "галоснымі", калі ёсць сугучча ў назве элементаў герба і яго ўладальніка. Напрыклад, бараноў рог на шчыце герба Рагачова, воўк – у гербе Ваўкавыска.

МАЛАДЗЕЧНА. Да гэтага часу горад карыстаўся гербам, або як яго яшчэ называюць, фірменным знакам, створаным да 600–годдзя Маладзечна мастаком Юрыем Герасіменкам–Жызнеўскім. На блакітным фоне значылася выява стылізаванай расліны папараці з адпаведнай назвай.

Абласное кіраўніцтва знак не зацвердзіла. Для Мінскай вобласці вызначаны чырвоны колер шчыта, не павінна быць аніякіх лічбаў і назваў.

У студзені ў памяшканні цэнтральнай гарадской бібліятэкі праходзіла выстаўка новых праектаў гербавых знакаў нашага горада. На ёй было прадстаўлена больш за 10 варыянтаў розных аўтараў, пераважна мясцовых мастакоў. Але ні на адным камісія па геральдыцы, створаная пры аддзеле культуры гарвыканкома, спыніцца не здолела і вырашана прадоўжыць дзейнасць па стварэнні герба горада Маладзечна на конкурснай аснове.



*З гэтай звыклай выявай маладзечанцы неўзабаве мусяць развітацца?*

*Кастусь ХАРАШЭВІЧ.*

## Горад будзе з гербам

МАЛАДЗЕЧНА. У канцы сакавіка – пачатку красавіка будуць адбірацца работы для рэспубліканскай геральдычнай камісіі. На сёння здадзена каля чатырох дзесяткаў эскізаў.

Сітуацыя з гербам у горадзе незвычайная. Добра вядомую многім выяву мастака Герасіменкі–Жызнеўскага сталічная камісія не зацвердзіла. Хаця на маладзечанскіх брашурах, схемах і да т. п. гэты герб сустракаецца часта.

З улікам таго, што гараджане да яго прывыклі, і каб аддаць даніну памяці мастаку, арганізатары прасілі ўдзельнікаў конкурсу выкарыстоўваць у работах элементы з герба Герасіменкі–Жызнеўскага.

*Аддзел інфармацыі.*

КУЛЬТУРА

# Добра быць "Маладым"

ВІЛЕЙКА. У Доме культуры на конкурсе мастацкай самадзейнасці школ СШ №3 паказвала абрад вяселля. Па крупінках назбірала матэрыял і склала абрад **Зінаіда Крупская** (пра яе "РГ" пісала ў нумары за 22 студзеня).

Гледачы ўбачылі, як продкі ўступалі ў шлюб 300 год таму, пачулі 40 вытрымак з абрадавых песень. "Жаніхом" быў настаўнік **Васіль Рабштына**, "маладой" – старшакласніца. Галоўныя "сват і сваццяя" – настаўнікі **Вячаслаў Насякайла, Ларыса Шавель**.

Акрамя настаўнікаў і вучняў весяліліся бацькі дзяцей. У масоўках задзейнічалі настаўнікаў, пенсіянераў.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# З цёплым словам і цукеркамі

МЯДЗЕЛ. Прадстаўнікі дабрачыннай каталіцкай арганізацыі "Карытас" наведалі Крывіцкую дапаможную школу–інтэрнат. Прывезлі адзенне, абутак, цацкі.

Першы дэсант быў каля месяца таму. Тады прадстаўнікі "Карытаса" прыехалі пазнаёміцца з умовамі жыцця дзяцей. Задаволеныя візітам, абяцалі вучням аказваць пастаянную дапамогу.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

АДПАЧЫВАЕМ

# У КВЗ сур'ёзнага не бывае



*Музычны конкурс.*

ФОТА АЛЕГА БАШТАВЕНКІ

"Фунт разынак" (СШ №11) – 1
"Сёмае неба" (СШ №7) – 0

МАЛАДЗЕЧНА. Прайшла фінальная сустрэча клуба вясёлых і знаходлівых сярод гарадскіх школ. Перамагла каманда адзінаццатай школы. Лік гульні, зразумела, не футбольны. Проста неаднойчы прагучала са сцэны:

– У КВЗ ніхто сур'ёзнага не гаворыць (не піша). Кожнае слова – жарт.

Перад гульнёй кіраўнік "Сёмага неба" філолаг **Аляксандр Раінчык** сказаў, што падрыхтавацца камандзе дапамог каранцін. Няхай бы стала добрай традыцыяй за 2 тыдні да фіналу школьнікаў распускаць па дамах.

Пра гульню КВЗ пісаць складана, яе трэба глядзець. Вельмі спадабаліся дамашнія загатоўкі пераможцаў. Гледачы клаліся ад смеху, калі вучні малодшых класаў паўднёвых нацыянальнасцяў (дзе іх толькі ўзялі): армяне, азербайджанцы, таджыкі – выносілі на сцэну велізарнейшы транспарант "Рэклама ў Беларусі. СШ №11 тэл. 51917". Прычым, пад такую ж рэжучую слых музыку, як ішла былая беларуская застаўка на ОРТ. Дзяржаўная сімволіка транспаранта (ён 10 метраў у даўжыню) добра выглядала побач з нацыянальнымі рысамі дзяцей з поўдня.

Капітан "...разынак" **Віктар Захарчанка** ў конкурсе капітанаў "Хто ў доме гаспадар" парадзіраваў расійскіх палітычных дзеячаў Жырыноўскага, Лебедзя, Ельцына, Гарбачова. А голасам Лукашэнкі:

– Хачу, каб дом быў вялікі–вялікі. І я ў ім адзін гаспадар.

Тэма кахання ў КВЗ займала асобнае месца. Хлопцы пазнавалі дзяўчат па іх ласкавых руках. Пацыенты вар'яцкага дома (конкурс "Шчасце – гэта калі ўсе дома") прызнаваліся ў каханні ўрачу: "Летят перелётныя птицы, а я остаюсь с тобой." Многа прагучала карысных парад – "каб пазбавіцца ад перхаці, трэба ўсяго адзін раз пакласці галаву ў пашчу льва".

Кіраўнік каманды "Фунт разынак" **Іна Хадыка** гаворыць, што яны арыентуюцца на тэлевізійны КВЗ толькі па форме падачы матэрыялу. Усе жарты, прыколы – сваёй вытворчасці.

Пасля гульні арганізатары – Цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў – запрасілі абедзве каманды да сябе на салодкі стол і дыскатэку.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ, адзін з "журыстаў".*

"РГ"–СТАТЫСТЫКА

# Цяжка з бюджэтнікамі

СМАРГОНЬ. Калі штомесячнае папаўненне бюджэту на Гродзеншчыне складае ўсяго 3%, то ў Смаргоні – 15.

Аднак становіцца ўсё цяжэй фінансаваць бюджэтныя арганізацыі, камунальную гаспадарку.

*Павел МАКЛЮК.*

БРАТЫ НАШЫ МЕНШЫЯ

# Без права прапіскі

СМАРГОНЬ. Жыць становіцца ўсё складаней. Цяжэй і для "братоў нашых меншых", якіх нядбайныя ўладальнікі выстаўляюць за парог кватэр.

Таму жылкамунгасу работы дадаецца. Летась у горадзе адлоўлена 211 бадзяжных сабак, а ў студзені – яшчэ 24.

*Павел МАКЛЮК.*

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

# У Даўгінаве кожны торг са скандалам

***"Патрапіла ў рукі кніга – факсімільнае выданне газеты "Наша Ніва" за 1909 год. Сярод мноства артыкулаў ёсць і паведамленні з гарадоў і мястэчак, што цяпер ахоплівае "Рэгіянальная газета".***

*Аляксандр Высоцкі, Мядзел."*

**Ст. Гудогай, Віленскай губ. Ошмянскага пав.** – 17 дзекабра а 5 гадзіні зраня – ешчэ было цямно, жонку арэнцатара фольварку Сержанты разбудзіў страшэнны гром. Зазвінелы шклы ў вокнах і здалося гаспадыні, што падае дом. Але ўсё уціхла; хутка прыбег і арэндатар, што быў пры скаціне ў хлеві расказаў, што і ён таксама чуў гул, быццам гром праляцеў па небі, земля задрыжала, і жывёлы папападалі на калены. Выбежаўшы з хлеву, ён убачыў недалечка быццам роў глыбокі, каторы цягнуўся мусіць з вярсту ўдоўж с паўночы на палуднё–усход.

Думаюць, што гэта одгалас таго страшэннаго трасеньня зямлі, шчо зруйновало ў Італіі неколькі вялікіх гарадоў і без ліку вёсак. Гэтае зямлітрасеньне, як кажуць, адазвалася ў некалькіх мейсцах Віленскай губерніі.

Ф. Губанец.

Першая беларуская газета з рысункамі "Наша Ніва".

№3 ад 15 (28) январа 1909 г.

**Г. Радашковічы, Віленскага пав. Віленскай губ.**

Начальства ешчэ не зацьвердзіла новага гарадзкога галаву, Кіцінскага, і гарадзкіе справы стаяць; яны і так закручэны, што даўно пара за іх узяцца.

Жыцелі падалі прашэньне, каб дапусьцілі дзяўчынак вучыцца ў гарадзкім вучылішчы.

Каля мястэчка А. Уласаў хочэ зрабіць паказны хутар, каб пазнаць, ці можэ пражывіцца семья хлебароба на 4 дзесяцінах і як.

Вецер.

"Наша Ніва" №5 ад 29 (11) января 1909 г.

**Г. Смаргонь, Ашмянскага пав. Віленскай губ.**

6 лютага ў начы спалілася гарбарня Шэмшэлевіча. Забастоўка гарбарэн скончылася. Работнікі пачалі працаваць.

Н. М.

**Долгінаў, Віленскай губ. Вілейскага пав.**

У нас ёсць многа мужыкоў, работнікаў вёсковых, што зьбіраюцца кожны чацьверг на торг да мястэчка. У чацьверг на базары можна ўсё купіць і прадаць, перэварочываюцца тысячы рублёў, тут і сталярства, і слесарства, і кравецтва, і шавецтва, і лён, і жыта; ўсяго, што вокам кінуць, можна купіць, толькі давай грошы.

Але беда, што ў нас ёсць манаполька і 8–9 шынкоў: пад вечар шмат людзей цягаюцца пьяные, і ніводнаго торгу не абходзіцца без шкандалаў і разбоёў. Добра было–бы, каб воласць і мешчане зрабілі прыгавор, каб закрыць усе манапольки і каб не дапушчаць патайнай прадажы гарэлкі з дамоў, ды за гэта штрафаваць.

В. Сос–скі.

"Наша Ніва" №8 ад 20 (5) февраля 1909 г.

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# «Мы любім свой горад»

***Па выніках леташняга агляду–конкурсу сярод гарадоў абласнога падпарадкавання горад Маладзечна (Мінская вобласць) атрымаў дыплом I ступені і 5 мільярдаў прэміяльных за добраўпарадкаванне.***



*Утульна ў гарадскім парку.*




*Магазін «Магістраль» па вуліцы Касманаўтаў.*

*Добраўпарадкаванне вяло Маладзечанскае прадпрыемства механізацыі спецыяльных работ №196 (дырэктар – Канстанцін Манюк).*

ФОТА АЛЕГА БАШТАВЕНКІ.

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 24.02 | 3.03 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 310 | **340** |
| Кілбаса сервелат | 1 кг | – | **1232** |
| Сасіскі | 1 кг | 360 | 360 |
| Селядзец | 1 кг | 289 | **285–290** |
| Рыс | 1 кг | 170 | **170** |
| Цукар | 1 кг | 125 | **135** |
| Грэчка | 1 кг | 120 | **130** |
| Алей | 1 л | 300–320 | **300–320** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 85 | – |
| Маянэз | 250 г | 60–75 | **60–75** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 360 | **360** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 100 | **100** |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 85 | **90** |
| Лімоны | 1кг | 380 | **390** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 150 | **120** |
| Масла | 1 кг | 300 | – |
| Тварог | 1 кг | 150 | **100** |
| Малако | 1,5 л | 45 | **45** |
| Бульба | 1 вядро | 200 | **250–300** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 120 | **120–130** |

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

## Тэлефон–"злодзей"

***МІНСК. Махлярства квітнее. Падманваюць нас амаль на кожным кроку. Але з такім відам ашуканства сустрэўся ўпершыню.***

На скрыжаванні праспекта Машэрава і вуліцы Няміга ёсць тэлефонныя апараты. Трэба было патэлефанаваць сябру. Уставіў картку ў тэлефон, а яна правалілася ў сярэдзіну. Спрабаваў яе адтуль дастаць, але нічога не атрымлівалася.

Тады звярнуў увагу на дыск тэлефоннага наборніка – ён стаяў неяк трохі набок, а па баках былі відаць сляды клею. Узяўся за яго – і дыск лёгка паддаўся. Так я стаў уладальнікам 20 магнітных картак.

Пакуль прайшоўся ад Нямігі да кінатэатра "Масква", налічыў 5 аўтаматаў–злодзеяў, якія невядомыя падрыхтавалі такім чынам да збору бясплатных тэлефонных картак.

**Валянцін ГЕРНОВІЧ.**



*Гэтыя хлопцы, на шчасце, тэлефоны не «патрашаць». А вось прозвішчы ці твары сталічных махляроў грамадскасць наўрад ці калі даведаецца.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

КУЛЬТУРА

## Ветэранам споўнілася толькі 10

ВІЛЕЙКА. На мінулым тыдні споўнілася 10 год народнаму хору ветэранаў. На працягу гэтага часу кіруе хорам **Аляксандр Махнач**. Ветэраны некалі ўдзельнічалі нават ва ўсесаюзным конкурсе. А званняў "лаўрэат конкурсу" ў калектыву шмат.

**Марына ТАЧЫНСКАЯ.**

ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

## "Падсякае" амартызацыя

СМАРГОНЬ. Толькі 56% існуючых вытворчых плошчаў выкарыстоўвае мясцовы агрэгатны завод. З ўсёй пастаўленай колькасці станкоў устаноўлена і выкарыстоўваецца ў вытворчасці 345 штук, 257 штук у няпэўны час перабудовы было разрабавана.

Амартызацыя на вытворчыя плошчы і незманціраванае абсталяванне адбірае значную частку даходаў прадпрыемства, якое, увогуле, добра працуе.

Ставіцца задача закансерваваць плошчы, якія не выкарыстоўваюцца. Задача гэтая ставілася і ў час прыезду на прадпрыемства прэм'ер–міністра краіны **Сяргея Лінга**, аднак пакуль што яна не вырашаная.

**Павел МАКЛЮК.**

## Год пачынаецца цяжка

СМАРГОНЬ. Прагназавалася, што за люты аб'ёмы вытворчасці на мясцовым ліцейна–механічным заводзе складуць 64 працэнты да ўзроўню лютага мінулага года, на агрэгатным – 50 працэнтаў, адстае Сольскі завод для сушкі агародніны.

Прычыны розныя. Агрэгатны завод стрымлівае недахоп рухавікоў, якія закупляюцца ў ЗША і Чэхіі за валюту. Ліцейны зведвае вялікія праблемы з канвертацыяй беларускіх "зайцоў" у расійскія рублі і ўкраінскія грыўні за кокс і чыгуннае ліццё. А завод для сушкі агародніны сутыкнуўся ўвогуле з цікавай праблемай – недахопам шкляных слоікаў пад прадукцыю.

**Павел МАКЛЮК.**

ГАНДАЛЬ

## "Космас" зноў памяняе гаспадара

МАЛАДЗЕЧНА. Гастраном па вуліцы Касманаўтаў больш за паўгода, як закрыты. І адкрыецца, хутчэй за ўсё, пасля ацяпляльнага сезона.

У верасні на сесіі гарсавета дэпутатаў магазін перадалі на баланс дзяржпрадпрыемству "Стары замак". Дагэтуль гаспадарыла там ТАА "Фенікс". "Космас", які мае плошчы аднаго з самых вялікіх гастраномаў (700 кв. м), ператварыўся ў своеасаблівую эстафетную палачку.

Дырэктар дзяржпрадпрыемства "Стары замак" **Лідзія Квяткоўская** гаворыць, што магазін "Космас" патрабуе вялікіх грашовых укладанняў – толькі каб змяніць старое абсталяванне, неабходна каля 100 тысяч долараў. Падаражэла карыстанне цяплом, электраэнергіяй, вадой. З лістапада за ацяпленне магазіна прадпрыемства пералічыла каля 500 мільёнаў.

Нягледзячы на вялікія лічбы, "Стары замак" змог бы выканаць бягучы рамонт і запусціць "Космас". Аднак зрабіць гэта з ацяпляльнымі трубамі, што ёсць на цяперашні час, кантралюючыя інстанцыі дазволу не даюць. Усё гэта цягне на капітальны рамонт. І тое пасля заканчэння ўсё таго ж ацяпляльнага сезона. Але капрамонт дзяржпрадпрыемства не выцягне.

– Мы "Стары замак" ледзь з каленяў узнялі, – гаворыць Л. Квяткоўская, – а так завалім і гэта, і тое.

"Космас", хутчэй за ўсё, аддадуць "Камунальніку" ці гандлю. На аўкцыён выстаўляць магазін немэтазгодна – надта ўжо вялікія плошчы.

**Віталь КРУПЯНЬКОЎ.**

## Стратных усё менш

СМАРГОНЬ. Калі ў 1996 годзе 26 гандлёвых пунктаў прыносілі страты, то летась са стратамі спрацавалі 4 дзяржаўныя магазіны. А ўвогуле, гандаль розных формаў уласнасці замест 3 мільярдаў рублёў страт у 1996 годзе летась прынес 9 мільярдаў рублёў прыбытку.

**Павел МАКЛЮК.**

## Хапае сабе і суседзям

СМАРГОНЬ. Штодня два хлебныя аўтафургоны са свежай прадукцыяй Смаргонскага хлебазавода бяруць кірунак у Ашмяны. Смаргонскі хлеб ахвотна раскупляецца не толькі тут, але і некаторых вёсках суседніх раёнаў. Напрыклад, пяць мяхоў яго, што дастаўляюць прадпрымальныя людзі ў вёску Жупраны, разыходзяцца за лічаныя хвіліны.

На заводзе пастаянна абнаўляецца асартымент хлебабулачных вырабаў, яго ахвотна раскупляюць у фірменных кіёсках "Гарачы хлеб" у Смаргоні.

Аднак вытворчыя магутнасці задзейнічаныя не на ўсю моц. Завод можа выпускаць штодня 50 тон, а выпускае пакуль 12 ( 3,7 тоны распрадаецца у суседніх раёнах).

**Мавел МАКЛЮК.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## На Вілейшчыне

У нядзелю (28 лютага) у вёсцы Жары згарэлі два хлопчыкі: 3–гадовы Яўген і гадавалы Алёша.

Муж з жонкаю (28 і 22 гады) зачынілі трох дзяцей у хаце і пайшлі на госці. Дзеці ўзялі запалкі, падпалілі бацькаву куртку. У пажары 5–гадовая Наташа, якая разбіла шкло, выбралася на двор. Моцна парэзалася.

Брацікаў пахавалі на могілках у суседняй вёсцы. Труны не адкрывалі.

**Марына ТАЧЫНСКАЯ.**

## 36 крадзяжоў

СМАРГОНЬ. Шэсць 11–класнікаў СШ №6 учынілі за непрацяглы час 36 крадзяжоў грашовай выручкі з магазінаў. Самы дробны "улоў" складаў мільён рублёў, самы буйны – 13.

Ідзе следства, непаўналетнія і іх бацькі будуць адказваць за нанесеную шкоду. Падлеткавая злачыннасць у раёне расце, хаця, увогуле, колькасць крадзяжоў асабістай і грамадскай маёмасці зніжаецца.

**Павел МАКЛЮК.**

## Працяг крывавага "марафону"



*Самая сур"ёзная ступень адказнасці за парушэнне.*

ФОТА З АРХІВА МАЛАДЗЕЧАНСКАГА АУС НА ТРАНСПАРЦЕ.

МАЛАДЗЕЧНА. І мінулы месяц таксама меў свой крывавы "ўраджай". У лютым зарэгістраваныя 3 няшчасныя выпадкі з людзьмі, у якіх загінула 4 чалавекі.

13 лютага на неахоўваемым чыгуначным пераездзе станцыі Пруды адбылося сутыкненне пасажырскага цягніка "Вільня–Мінск" з аўтамашынай ВАЗ–2101, якой кіраваў пенсіянер Н. з Астравеччыны. Вадзіцель спрабаваў перасячы чыгуначныя пуці на забаронны сігнал святлафора; ён і жонка, якая з ім ехала, у выніку ДТЗ загінулі. Галоўнай прычынай трагедыі стала парушэнне элементарных правілаў дарожнага руху.

Нагадаю вадзіцелям, што за парушэнне правілаў праезду праз чыгуначныя пераезды прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу да 3 мінімальных заработных плат, а пры паўторным праваларушэнні – да пазбаўлення вадзіцельскіх правоў. Але па нашых дарогах ездзіць шмат сучасных "камікадзе", якія дзейнічаюць па прынцыпе "хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага", – для іх можна закончыць фразу (і адначасова вызначыць ступень адказнасці за парушэнне) інакш: "хто рызыкуе, у таго п'юць "горкую" на памінках".

**Сяргей ВАСІЛЕВІЧ,**
***начальнік аддзялення грамадскай бяспекі і прафілактыкі Маладзечанскага АУС на транспарце.***

РАБОТА НАД ПАМЫЛКАМІ

## Буйнейшы падаткаплацельшчык Смаргоншчыны

СМАРГОНЬ. У інфармацыі "Каб не гэты крызіс" ("РГ" №2) з прычыны недакладных лічбаў смаргонскіх фінансістаў памылкова ўказана, што пaverлічэнне нядоімкі па плацяжах дапусціў агрэгатны завод. На самой жа справе ён – буйнейшы падаткаплацельшчык Смаргоншчыны, спаўна разлічваецца з бюджэтам, у адрозненне ад ЗАСа (завода аптычнага станкабудавання).

На агрэгатным заводзе працуе 1250 чалавек. За мінулы год выпушчана таварнай прадукцыі на 110% да мінулага года ў супастаўляльных цэнах; рэалізацыя склала 272%. Своечасова выплачвалася заработная плата.

**Павел МАКЛЮК.**

ЗНАЁМЦЕСЯ

# Мужчыны абараняюць жанчын

*"Даведалася пра існаванне Асацыяцыі аховы правоў бацькі". Прашу прыняць мяне ў яе. Зразумела, што галоўнае ў вашай рабоце — абарона правоў і інтарэсаў дзяцей, і ў выпадку канфлікту паміж бацькамі вы будзеце абараняць таго, хто мае рацыю, незалежна ад яго полу. У мяне расце сын, і нам абодвум патрэбныя абарона і падтрымка".*

*9.10.1998, Е. С., Чысць, Маладзечанскі раён.*

Віншую жанчын нашага рэгіёна з іх святам, асаблівыя словы ўдзячнасці – тым, якія дапамаглі Асацыяцыі аховы правоў бацькі (ААПБ) вынікова адказаць на заявы, звярнуўшыхся да нас па дапамогу.

Вілейскі раён. Пад пагрозай дабрабыт дзвюх дзяўчынак. Здавалася непазбежным пазбаўленне бацькоўскіх правоў маці, адбіранне дзяцей і ад бацькі і змяшчэнне дзяцей у інтэрнат.

Пасяджэнні, акты, гутаркі, папярэджанні, разгляданні справы ў судзе... Быць сумнаму зыходу?

Зварот маці дзяўчынак, Н. К., у Асацыяцыю абароны правоў бацькі, новыя намаганні грамадскасці, РАА, РАУС. Удзел грамадскасці і суседняга Маладзечанскага аддзела адукацыі. Падтрымка, дапамога. Ля вытокаў справы – дырэктар і настаўнікі Латыгальскай сярэдняй школы, якія адчуваюць адказнасць за лёсы сваіх школьнікаў.

У выніку і бацька, і маці дзяўчынак пароўну займаюцца выхаваннем дачок, карэктуюць сябе; абодва працуюць, клапоцяцца пра дзяцей. Дзяўчынкі атрымліваюць неабходную ўвагу і клопат, не страцілі ні тату, ні маму.

Складанай для ААПБ была справа сям'і Ж. Вырашаўся лёс дзвюх дзяўчынак, бацькоў і цёткі дзяцей.

Абыякавых не было. Удзел у справе бралі і мінскія актывісты ААПБ, яе прэзідэнт Алег Бакулін. У рэшце рэшт было знойдзена рашэнне: не згубілі дачок і пляменніц бацька, маці і цётка, якія разам калісьці расцілі дзяўчынак.

Мы можам разам працаваць, каб своечасова папярэдзіць і ўхіліць сямейныя канфлікты, захаваць правы нашых дзяцей на сям'ю, на бацькоў, на нармальнае дзяцінства!

***Леў ПАЛЯНСКІ,***
***упаўнаважаны ААПБ па Мінскай вобласці.***



## РОЗНАЕ

### ПРАДАМ

- **ДЗВЕРЫ ЎВАХОДНЫЯ ФЛЯНГОВЫЯ. Т.у Маладзечне 60088.**
- Люстры чэшскія хрустальныя. Т. у Мінску 2513015.
- Шчанят дабермана з выдатнай радаслоўнай добрасумленным людзям, нядорага. Т. у Маладзечне 31555.
- Вокны, дзверы, балконныя рамы - оптам і пад заказ. Вельмі якасна. Т. у Маладзечне 79140.
- Помнік гранітны, нядорага; ружжо МЦ-21-12. Т. у Маладзечне 31605.
- Шафу трохстворкавую з антрэсолямі. Т. у Маладзечне 69206.
- Тэрмінова, нядорага тэлевізар Гарызонт 54 СТВ-655 ІС. Т. у Вілейцы 58022.
- Электрапомпу Ручаёк. Т. у Маладзечне 32561.
- Тэрмінова, нядорага прадаю будматэрыялы. Звяртацца па т. у Маладзечне 63577.
- Халадзільнік, маразільнік, новыя. Т. у Маладзечне 69062.
- Буфет кухонны, 1-спальны ложак, трэльяж, у добрым стане. Т. у Маладзечне 63431.
- Тэлефон з АВН, нядорага. Т. у Маладзечне 69766.
- Электрычную збожжамалацілку, 150 у. а.; матацыкл Урал на запчасткі. Т. у Маладзечне 33186.
- Пліту газавую Брэст, новую, электрараспальванне, грыль, двайная духоўка. Т. у Маладзечне 68775.
- **МЭБЛЮ ВЫТВОРЧАСЦІ РБ. Т. у Вілейцы 56382. Падлягае абавязковай сертыфікацыі.**
- Сетку ацынкаваную, латкі жалезабетонныя для ацяплення, памер 3х0,6х0,45. Т. у Вілейцы 56230.
- Высакаякасную сумесь «Клей» № 202 для кладкі пліткі. Т. у Маладзечне 50747.
- Блокі газасілікатныя. Т. у Маладзечне 37686.
- **МЯККІ ВУГАЛ, новы, велюр.** Т. у Маладзечне 67100.
- **НОВАЯ МЭБЛЯ З ДАСТАЎКАЙ. ТАННА. Т. у Маладзечне 36396. Падлягае абавязковай сертыфікацыі.**
- Тэлевізар каляровы, 72 см з сатэлітам стэрэа; ВМ Грундзіг; пральную машынуаўтамат. Усё нядорага. Т. у Маладзечне 36933, 77257.
- Дзіцячую каляску, 4-ка, нямецкая, 90 у. а. Т. у Маладзечне 36933.
- **ВЕЛАСІПЕДЫ! ДАРОЖНЫЯ, ДАМСКІЯ, СКЛАДАНЫЯ. ОПТАМ і Ў РОЗНІЦУ. НЯДОРАГА. ДАСТАЎКА ПА ГОРАДЗЕ БЯСПЛАТНА. МАГЧЫМАЯ ДАСТАЎКА Ў ІНШЫЯ ГАРАДЫ І ВЁСКІ. ТАВАР СЕРТЫФІКАВАНЫ. ПП № 2002 ад 1996 г. ТЭЛЕФАНАВАЦЬ У ЛЮБЫ ЧАС. Т. у Маладзечне 52738.**
- Новыя халадзільнікі і маразільнікі Атлант, нядорага. Т. у Маладзечне 35357.
- Швейныя машынкі, зварачны п/а, Германія. Т. у Маладзечне 31620.
- 3-створкавая шафа без антрэсолі, ложак 2-спальны, усё б/у. Званіць па т. у Маладзечне 76800.
- Каляровы тэлевізар б/у; 2-ярусны ложак з паўтарачнымі матрацамі. Т. у Маладзечне 64658.
- Слыхавы апарат. Т. у Маладзечне 66969.
- Тэрмінова металічны гандлёвы кіёск з месцам. Т. у Маладзечне 61249 (пасля 1830).
- Металічныя і п/эт. скрыні. Дзяржцана. Т. у Маладзечне 60758.
- Нядорага шчанят чаў-чаў. Т. у Маладзечне 36365.
- КТ Гарызонт-421Д, 51см; Шыляліс, 42 см; халадзільнік Мінск 15М; дом для Барбі. Усё ў выдатным стане, з дастаўкай. Т. у Маладзечне 53721.
- Швейную машынку Бразер PS-33, Японія, новая, 250 у. а.; газавую калонку, новая. Т. у Маладзечне 52369.
- Каляску прагулачную імпартную, б/у; швейную машынку Тула, б/у. Усё ў добрым стане. Т. у Маладзечне 65251.
- Відэакамеру. Т. у Маладзечне 32256.
- Швейную машынку Падольск-142, аверлок; рамонт швейных машын. Т. у Маладзечне 61534.
- Пральную машыну п/а Freandshift. Т. у Маладзечне 36958.
- Тыраксін. Т. у Маладзечне 77137 (увечары).
- Металічныя дзверы для арганізацый і прыватных асоб. Ад завода-вытворцы. Па нізкіх цэнах. Тэл. у Мінску: (017) 220-54-95, 224-52-20, 257-75-07, 279-75-25.
- Кухню вытв. Польшча. Т. у Вілейцы 53789, 58929.
- Газавую калонку, новую; дзіцячы ложак. Т. у Вілейцы 53542.
- Халадзільнік, новы. Т. у Вілейцы 58436 (пасля 1700).
- Прадам Атлант-256. Т. у Смаргоні 31669.
- Прыхожую Нарачанка, стол-кнігу. Усё новае. Т. у Маладзечне 71388.
- Кацёл на цвёрдым паліве, год б/у, 40 у. а. Т. у Маладзечне 21754.
- **ТЭЛЕФОНЫ** дыскавыя, кнопкавыя, з АВН, радыё-, за наяўны і безнаяўны разлік. Падлягае абавязковай сертыфікацыі. Т. у Маладзечне 64909.
- Электрапомпу Ручаёк. Т. у Маладзечне 33608.
- Халадзільнік Атлант М-367. Т. у Маладзечне 63672, 67130.
- Калёсы (телегу) на р/ходу. Т. у Смаргоні 94243.
- Халадзільнік Атлант-256, новы. Т. у Маладзечне 50938.

### КУПЛЮ

- Камандзірскі гадзіннік. Т. у Маладзечне 31605.
- Халадзільнік Марозка. Т. у Маладзечне 65273 (пасля 1600).
- Газ. пліту настольную, 2-канфорачную, можна б/у. Т. у Маладзечне 53721.

### ЗГУБЛЕНА

- Згубленыя дакументы на імя Бажко М.М.: вадзіцельскае пасведчанне, тэхталон, сертыфікат, тэхпашпарт прашу вярнуць за ўзнагароду.
- Згубленае пасведчанне за № А-205911 на імя Страха Міхаіла Віктаравіча лічыць несапраўдным.

### ІНШАЕ

- Хутка, якасна афармлю любыя машынапісныя работы на пішучай машынцы. Звяртацца па т. у Маладзечне 63577 (з 1700).
- Устаноўка, настройка, суправаджэнне 1С бухгалтэрыі. Навучэнне бухгалтэрыі. Т. у Вілейцы 57238.
- Здам у арэнду гандлёвы кіёск. Т. у Вілейцы 55608.

## ЗНАЁМСТВЫ

Спадзяюся пазнаёміцца для стварэння сям'і з дзяўчынай або жанчынай да 32 год, можна з дзіцем. Пра сябе: 32/170/60, жыву ў вёсцы, разведзены, не п'ю. Маладзечна-3, д/з п/п КН 0239441.

Жанчына, 46/160/55, без шк/зв, добрая гаспадыня, пазнаёміцца для стварэння сям'і з адзінокім мужчынам без шк/зв, добрым, не судзімым, не поўным, не ніжэй за 170 см, з Маладзечна. Маладзечна-6, д/з п/п КН 0052719.

Жанчына 30/162, ёсць школьніца, без шк/зв. Адкажу ўсім з поўным адрасам і фота, хто раней не знаходзіўся ў шлюбе. Маладзечна-4, д/з п/п МС 0248679.

Пазнаёмлюся з інтэлігентным мужчынам да 50 год для стварэння сям'і. 231000, Смаргонь-2, а/с 13.

Пазнаёмлюся з жанчынай, якая нарадзілася ў 1948 годзе, як і я, а дакладней, 27 чэрвеня або 26 ліпеня. Уладзімір. Пісаць: LT-2012, Вільнюс, п/с 1990.







## ВІНШАВАНКІ

Дарагая наша мамачка **Ніна Антонаўна Кшталтная!** Віншуем з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, даўгалецця. Дзякуй за дапамогу і за тое, што ты ў нас ёсць! ***Дачка, сын, зяць, нявестка і ўнукі.***







СКЛАДЗІ САБЕ ПРЫГАЖУНЮ

# "Міс Маладзечна–99"

***МАЛАДЗЕЧНА. У нумары №8 "РГ" абвясціла конкурс для знаўцаў жаночай прыгажосці: паасобку змясцілі "ніз" і "верх" некаторых фіналістак. Трэба было дакладна састыкаваць галаву і ногі. Газета атрымала не адзін дзесятак вашых лістоў.***

Толькі адзін ўдзельнік конкурсу атрымаў 100–працэнтны вынік. Перамагла метадыст цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў горада Маладзечна **Ларыса Сарокіна**.

Блізка да выйгрышу былі маладзечанкі **Вольга Сулімоўская** і **Таццяна Чайкоўская, Вольга Капюш** з вёскі Пераходы Смаргонскага раёна, **Ю. Хільпукоў** з Вілейкі, таксама вілейчанка **Л. Сарокіна**, **Віктар Кашчыц** з Будзёнаўкі Ашмянскага раёна. Віктар быў упэўнены ў перамозе, нават выслаў сваю фотакартку.

### Правільны адказ:

**А–6; В–2; С–1; Д–5; Е–4; F–3.**

З Ларысай Сарокінай мы звязаліся па тэлефоне:

– Наша сям'я: я, муж (працуе на чыгунцы) і сын – адзінаццацікласнік гімназіі. Я наведваю ўсе культурныя гарадскія мерапрыемствы. А на апошнім конкурсе "Міс Маладзечна" (паўтара гады таму) была на ўсіх трох турах. "Ніз" і "верх" фіналістак сумяшчала гадзіны 3. Сумненні былі наконт ножак у джынсах. Наогул, я люблю людзей прыгожых, можа, таму вока спрактыкаванае.

У апошні момант прыйшоў правільны адказ ад маладзечанца **Юрыя Івашкіна**. Ён творча падышоў да справы: выразаў аднекуль тулава і склаў прыгажунь «па поўнай праграме».

Просім Юрыя падысці ў "РГ" для ўрачыстага фатаграфавання.

Фінал "Міс Маладзечна" пройдзе 14 сакавіка.

***Аддзел інфармацыі.***

У ВОЛЬНУЮ ГАДЗІНУ

| 1 | | | 2 | | | 3 | | | 4 | | | 5 | | | 6 | | | 7 | | | 8 | | | 9 | | | 10 | | | 11 | | | 12 | | | 13 | | | 14 | | | 15 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

## Чайнворд

1. Футбольны клуб з Італіі. 2. Частка оперы, выконваемая спеваком–салістам. 3. Горад у Крыме. 4. Дошка для вылічэння ў Старажытнай Грэцыі. 5. Востраў у Міжземным моры. 6. Футбольны клуб з Іспаніі. 7. Саюз, аб'яднанне. 8. Найменшая часцінка хімічнага рэчыва. 9. Навігацыйны арыенцір. 10. Аб'ект сажалкавай рыбнай лоўлі. 11. Чарцёж зямной паверхні. 12. Горад і порт у Францыі. 13. Прадмет даследавання. 14. Знак Задыяку. 15. Знак музычнай граматы.

## Слаўны рэгіён

Мо ў Вілейцы,
ці ў Смаргоні,
У нашым слаўным рэгіёне
Хочуць ведаць усе навіны -
Дык чытаць «РГ» павінны.
Кожны дзень:
вясной і летам
Трэба мець сваю газету.
Без навін каб не застацца,
На «РГ» лепш падпісацца.
Тут пра Мядзел і Ашмяны
Пішуць добра і старанна,
Пра Валожын, Маладзечна
Усё цікавае, бясспрэчна.
Тут аб'явы і рэклама,
І ТБ заўжды праграма.
Усе падпіску афармляйце -
І газету дома майце!

***Міхаіл Навумік.***

## Міні–крыжаванка

| 1 | | 2 | | 3 |
|---|---|---|---|---|
| | ■ | | ■ | |
| 4 | | | | |
| | ■ | | ■ | |
| 5 | 6 | | 7 | |
| ■ | | ■ | | ■ |
| 8 | | | | |
| ■ | | ■ | | ■ |
| 9 | | | | |

Па гарызанталях: 1. Бадзяга ў народаў Каўказа. 4. Трыбуна ў царкве. 5. Рака ў Іране і Туркменістане. 8. Парнакапытная жывёла. 9. Дрэва, млечны сок якога выкарыстоўваецца для атручвання стрэлаў.

Па вертыкалях: 1. Сталіца краіны ў Паўночнай Амерыцы. 2. Транспартны сродак чалавека. 3. Насякомае. 6. Вельмі злы, жорсткі чалавек. 7. Спадарожнік Юпітэра.

***Чайнворд і крыжаванку склаў беразінец Мікалай ХАДАСЕВІЧ.***

## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №3.

**Па гарызанталях:** 1. Арфа 3. Хаос 9. Арфаграфія 10. Тарэадор 13. Куба 14. Вечарынка 15. Сват 18. Фасад 19. Сілас 20. Гумно 23. Сібарыт 24. Рэактар 27. Тэрапія 28. Рэторта 31. Парыж 32. Ліман 33. Дымар 38. Рада 39. Метафізік 40. Лахі 43. Пластыка 44. Акумулятар 45. Такт 46. Азот.

**Па вертыкалях:** 1. Амфібрахій 2. Фуга 4. Арэх 5. Садавіна 6. Засек 7. Вітамін 8. Тарка 9. Арка 11. Рытм 12. Рыкашэт 16. Фанабэрыя 17. Бутафорыя 21. Тытан 22. Актэт 25. Сілікат 26. Стратастат 29. Ландшафт 30. Намітка 34. Крап 35. Метка 36. Фірма 37. Літр 41. Уток 42. Шлюз.

ПАДПІСКА

# Участак Яблонскай у лідэрах

РАДАШКОВІЧЫ. Сёлета выпісала "РГ" мясцовая бібліятэка. Яе загадчыца Ала Краўцова гаворыць:

– У Радашковічах жыве шмат прыезджых. У тым ліку, і з рэгіёна, які ахоплівае "Рэгіянальная газета". Многім цікава пачытаць, чым жыве былы родны раён.

Усяго ў мястэчку ў гэтым годзе выпісала "Рэгіянальную газету" 44 чалавекі. Лідзіруе ўчастак паштальёна Рэгіны Яблонскай – 17 чалавек.

***Надзея ЛІСАВА.***

